# ПАГОНЯ

**Цэна №—1 аукс.**

**ГРАМАДЗКАЯ, ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залатых на апошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**Адрэс рэдакцыі і канторы:** Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а. Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—3 гадз. Кантора адчынена што дзень ад 9—3 гадз.

**Падпіска каштуе:** на 10 № № ўпярод — 10 зал. „ 5 „ „ — 5 „ Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы** ня прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачаваюцца па пагляду Рэдакцыі.

**№ 14.** | **Коўна, Чацьверг, 18 лістапада 1920 г.** | **Год І-шы.**


# ГРАМАДЗЯНЕ!

Калі хочаце бачыць сонца ў запраўдным сьвятле, радавацца поўным прыгожасьцям прыроды і ня хочаце сьлязьмі паліваць сваю родную зямлю—матку, а жадаеце мець свабоду і спакойны вугал, выканайце толькі адно—**Пашырайце надзвычайны заём дзеля абароны РОДНАГА КРАЮ.**

*Коўна, 14 лістапада.*

Цёмныя хмары, навісшыя над працоўнаю Літвой, пачынаюць памалу распаўзацца, і з-за іх выглядаюць калі не праменьні сонца, то, можна сказаць, некаторая яснасьць таго, што рабілося і робіцца ворагамі самабытнасьці Літоўскага Народу.

Польская імпэрыялістычная эндэцыя, зарваўшаяся ў сваіх жаданьнях з самага пачатку і праводзячая сваю захватную палітыку і цяпер, ніяк ня можа прымірыцца, што поруч з панскаю Польшчаю істнуе запраўды дэмократычная старонка, у якой на першым пляне—інтарэсы народу, у якой і літвін, і беларус, і жыд, і паляк—роўныя грамадзяне. Польскім абшарнікам на Літве цяжка бачыць, што іх „прэрогатывы" тут канчаюцца, а таму яны і круцяць мазгамі над выдумкаю розных брудных „рэчаў", абы дабіцца свайго.

Але Жэлігоўшчына і падобнага роду „прыемнасьці", на якіх яны думалі адыграцца ў сваіх патугах, павінна памерці сама сабою, як гэта ўжо й было з гэткімі „выдумкамі".

Будзем спадзевацца і верымо, што Літоўска-Беларускі Народ, узмацованы сазнаньнем праваты яго справы, перамогшы гэту астатнюю навалу, выйдзе на роўны шлях шчасьлівага жыцьця поруч з другімі вольнымі і незалежнымі народамі.

## Грамадзяне!

Па ўсёй Літве зараз пачнецца продажа Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб абароны краю.

Грамадзяне, не запомніце пайсьці ў Дзяржаўны Банк і пазычыць яму грошы. Будуць грошы, будзе й аружжо, і ворагі—палякі выгнаны будуць з Літвы. Яны ня будуць больш забіваць народ Літвы і ня будуць таптаць крывёю палітай яе зямелькі

Усе, хто толькі мае грошы, нясіце іх у банкі, пазычайце—Бацькаўшчына ў гэтым нуждаецца.

Усе купляйце Надзвычайны Заём і атрымаеце квітанцыі з паметкаю NN прэміяў, бо налетась можна выйграць 25,000, 50,000 і нават цэлыхъ 100,000 аўксінаў і тагды шчасьліўцы без усякай турбацыі势 стануць багачамі. Калі ня выйграеце вялікай сумы, то абавязкова выйграеце 100, 200, 500 або 1000 аўксінаў. Шак усяго прэміяў будзе 5200 на агульную суму 2.000.000 аўксінаў. Пазычайце, шак 3,60% уперад выплачваюцца за тры гады.

Калі маецца ордэр, выдадзены Урадам на атрыманьне грошай з казначейства, не бяры гатоўкі, а замяні яе займам і з банка вазьмі квітанцыю надзычайнага займа дзеля патрэб абароны края.

Калі ад вас далёка банк, ідзіце ў пачтовыя канторы і пасылайце займы ў банкі свайго павету. Банкі ў заказных пісьмах прышлюць вам на пазычаныя грошы квітанцыі.

**Пазычайце ўсе! Выпаўняйце свой грамадзянскі абавязак!**

## Хроніка.

### Мітынг у местовым тэатры.

1. XI. 20 г. а 6 гадз. ў веч.

Адчыняючы мітынг, п. П. Леонас паясьніў сабраньню аб пастанове Лігі Народаў, згодна якой павінен адбыцца плебісцыт на ўсход ад лініі Кэрзона ў спрэчных між палякамі і літоўцамі месцовасьцях. Такім чынам частка чыста Літоўскіх зямель къ заходу ад гэнае лініі—Сэйны, Пунск—без плебісцыту аддаюцца палякам; з географічнага пагляду Вільня не ляжыць наўсход ад гэтае лініі, а таму пастанова Лігі Народаў павінна быць тлумачана так, што Вільня без плебісцыту астаецца Літоўцам.

Першы выступіў з прамоваю грамадзянін Радзевіч проці плебісцыту ў Вільні; пасьля яго грам. Алекно ў сваей прамове ад імя Сантары указаў, што хаця палякі пастанову Лігі Народаў разумеюць так, што плебісцыт павінен адбыцца і ў Вільні, але-ж гэта непаразуменьне: развязаньне канфлікту шляхам плебісцыту несправедліва, а таму лепей вясьці барацьбу і памерці, а на яго не згаджацца.

Пасьля прамовы грам. Годберга, гаварыўшага па-жыдоўску, так сама заявіўшага ад жыдоўскага насяленьня аб несправедлівай пастанове Лігі Народаў, член Устаноўчага Сойму Шмуйкшстіс указаў на прычыны, каторыя давелі да гэнага факту. Нашу міралюбнасьць зразумелі не як адзнак дэмократызму, а як бяссільле. Але ў барацьбе з бальшавікамі і бэрмонтаўцамі наш народ выявіў, што можа абараняць сваю свабоду, і цяпер на барацьбу з астатнім ворагам павінны падняцца ўсе і выйсьці пабедзіцелямі, або вясьці барацьбу да астатняй каплі крыві.

Да гэнага часу нам ніхто не памагаў, а саюзьнікі толькі частавалі нас прыгожымі лёзунгамі.

Плебісцыт так сама прыгожы лёзунг, але пасьля дзьвюхлетняй польскай акупацыі, каторая напладзіла множство патаемных і адкрытых арганізацыяў—ён ня можа быць праведзены, як належыць. А што датычыцца Вільні, то яна наша, і ў ёй плебісцыт адбывацца не павінен. І наш Урад не павінен і думаць аб тым, каб дапусьціць у Вільні плебісцыт.

Далей гаварілі два беларускіх прэдстаўнікі—Боеў і Казячы і былы член Тарыбы пратаерэй Корчынскі. Яны вельмі добра даказалі, як беларускі народ, з даўных—давён уціскаемы палякамі, заўсёды жадаў хаўрусу з Літвой, як веў барацьбу разам з Літоўцамі проці Палякоў.

А таму несправедліва лінія Кэрзона, несправедліва пастанова Лігі Народаў. Яны указывалі, што пасьля польскіх уціскаў на Беларусі плебісцыт можа даць рэзультаты, не адпавядаючыя жыцьцю. Плебісцыт можа адбыцца толькі тагды, калі польскія войскі выйдуць, а край займе нэйтральная армія. Аб плебісцыце ў Вільне і Віленскім вокругу ня можа быць і гутаркі.

Пасьля прамовы артыста Вайцкуса была агалошана гэткая рэзалюцыя мітынгу:

## Рэзалюцыя:

Розных народнасьцяў, грамадзянскіх арганізацыяў і поглядаў людзі, жыхары м. Коўна, сабраўшыся 1 лістапада 1920 году ў местовым тэатры дзеля абсуджэньня сучаснага палітычнага мамэнту, выслухаўшы даклад аб тым, што Ліга Народаў пастанавіла, каб у некаторых месцовасьцях Літвы адбыўся плебісцыт, а другія, чыста Літоўскія землі, як Пунск, Сэйны і іншыя вобласьці Беларускага краю лічыць бяспрэчна належачымі да Польшчы, і што палякі хацелі-б уцягнуць у вобласьць плебісцыту нават і Вільню, Сабраньне падкрэслівае:

1) Што Вільня ад вякоў была Літоўскай Сталіцай;

2) Што Вільня дорага кожнаму Літоўцу, як калыбель ідэі незалежнасьці;

3) Што сотні розных віленскіх будынкаў, цэркваў і тысячы іншых гістарычных культурных помнікаў збудованы крывавым потам грамадзян Літвы, а ня Польшчы, потам нашых бацькоў;

4) Што Вільня заўсёды была і ёсьць рэлігыйным, культурным і эканамічным цэнтрам нашага краю;

5) Што згодна правільнай статыстыкі, зробленай у мірныя часы перад вайной, ніводная народнасьць не выяўляе ў Вільні абсалютнай большасьці;

6) Што трымаючы паўтара гады гэты край пад сваей акупацыяй, палякі на варшаўскія грошы падгатавалі глебу плебісцыта, залажыўшы для гэнае мэты множства разных патаемных і яўных арганізацыяў, катовыя самаахвотна ці па прымусу зьбівалі-б з толку жыхароў;

7) І што пасьля таго, як гасударства Заходняй Эўропы заявілі, што Вільня будзе належаць да Літвы, прыменяньне плебісцыту ў Вільні сьведчыло-б аб тым, што Ліга Народаў прымушана была кіравацца фактамі, зробленымі гэнэралам Жэлігоўскім, проці якіх яна сама катэгарычна пратэстуе і даказало-б грамадзянам Літвы, што не маральны аўтарытэт Лігі Народаў, але кулак гэнэрала рашае судьбу і адносіны народаў і гасударстваў,—выражае вялікае зьдзіўленьне, пратэстуе проці такой пастановы Лігі Народаў, прадыктаванай палякамі, і заяўляе:

1) Што ні адзін Урад Літвы ня можа згодзіцца на плебісцыт, пакуль Літва ня будзе мець роўныя юрыдычныя правы з другімі гасударствамі, г. з., пакуль ня будзе вызнана Незалежнай Дзяржавай de jure;

2) Што ніякі Урад Літвы ня сьмее нават падумаць згодзіцца ўцягнуць Вільню ў вобласьць плебісцыта.

Старшыня Сходу *П. Леонас.*

Сэкрэтар *П. Шымкус.*

**Коўна,**
1/XI. 20 г.

◆◆◆◆◆◆

## Адраджэньне Літоўска-Беларускага з'еднаньня.

У Коўне некаторы час прабывае Надзвычайная Дэлегацыя Беларускай Народнай Рэспублікі, на чале са Старшынёй Рады Міністраў п. В. Ластоўскім.

Дэлегацыя гэта ўступіла ў перагаворы з Літоўскім Урадам па розным пытаньням, датычачым інтарэсаў абодвых народаў—Літоўскага і Беларускага.

Гэтымі днямі перагаворы закончыліся з поўным выкананьнем пакладаўшыхся на іх надзей. У зьвязку з перажываемым абодвымі народамі цяжкім палітычным мамэнтам дасягнута згода аб коордынацыі ўсіх сіл. Скончыўшы працу, дэлегацыя хутка ад'езджае з Коўны.

Нас паведамляюць, што ў зьвязку з канчаткам Літоўска-Беларускіх перагавораў добра развязана пытаньне аб акрэдытаваньні ў Коўну да Літоўскага Ураду дыплёматычнага прэдстаўніка Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, якім, здаецца, будзе назначаны інжэнэр Антон Аўсянік.

Магчыма, что ў Коўне будзе часова перабываць прэзыдыум Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і некаторыя Члены Ураду. У хуткім часе ў Коўне мае быць адчынена беларускае прэсс—бюро.

---

## Апошнія весткі з Горадна.

Ліцо, толькі што прыбыўшае з Горадна, перадае жудасныя весткі, малюючыя жыцьцё ў гэным злапалучным месте і губэрні.

Уся губэрня, як і раней, напоўнена жандармэрыей, галоўным чынам, з пазнанчыкаў, каторыя страшэнна зьдзекаваюцца над насельньнем. Пашлі ўзноў нязлічаныя арэшты: за слова, сказанае не ў карысьць Польшчы—турма або концэнтрацыйны лагэр. Ідзе страшэнны, беспардонны рабунак у жыхароў астаўшыхся пасьля бальшавікоў хлеба, жывёлы і наагул усяго таго, што толькі можна забраць.

Плач і стон узноў павісьлі над абездоленай Горадзеншчынай! Тое, што рабілося бальшавікамі, было хоць трохі падобна на нейкую законнасьць,—не забіралі, напрыклад, адзіных коняў, кароў, сьвіней і г. д.; палякі ня робяць ніякіх выняткаў—ўсё чысьцяць датла.

У м. Скідле і Азёрах Горадзенскага павету зроблены пагромы, пры чым, апрача рабунку маемасьці, насілавалі кабет і дзяўчат. Вакханалія польскіх войск і жандармаў ня ўнімаецца да апошняга часу: усе турмы ў Горадне, Беластоку і інш. местах перапоўнены—лішняе „насельньне“ турмаў высылаецца ў далёкія лагэры. Жыхарстаа амаль усё галадуе.

Дарагоўля ў самым Горадне страшэнная: фунт чорнага хлеба каштуе 18 марак, фунт сала—120 марак, масло—160 марак і г. д.

**К—.**

---

## Новы сельска-гаспадарчы журнал.

У другой палове кастрычніка г. г. вышла ў сьвет на беларускай мове новая сельска-гаспадарчая часопісь „Наша Зямля“ (выд. Камісіі Зямельнай Рэформы М-ва Земляробства).

Часопісь зьмешчае на 16 страніцах гэткія стацьці: „Заданьні Нашай Зямлі“, „Аб зямельнай Справе“, „Што робяць Літоўскія Улады, каб парабкі і малазямельныя атрымалі зямлю“, „Мор на скаціну“, „Адказы Рэдакцыі“ і звыш таго, табліцы, якія вельмі патрэбна ведаць кожнаму земляробу, зацікаўленаму ў атрыманьні зямлі.

Выдана часопісь проста, але матарьялы, зьмешчаныя ў ёй, надта рэльефна малююць, што робіцца ў Дэмократычным Літоўскім Гаспадарстве, каб палепшыць долю земляроба, каб здаволіць аго зямелькай, аб якой у мінуўшчыне ён мог толькі марыць, праліваючы пот і кроў у аздобе парабкаў і ардынарнікаў у панскіх маёнткахъ польскіх абшарнікаў.

У стацьце „Мор на скаціну“ вельмі ясна паказаны адзнакі страшэннай хваробы на жывёлу, ад якой, як ведама, яшчэ ў нядаўнія часы прападала многа набытку—гэтага галоўнага багацьця селяніна.

**К—.**

---

## Новы „БІСМАРК“.

Як передаюць, паміж гэнэралам Балаховічам і некаторымі „беларускімі дзеячамі“ зроблена ўмова, на моцы якой цывільную ўладу на абшарах, занятых войскам Балаховіча, узялі на сябе: занадта „вядомы“ Павал Аляксюк, Сенкевіч, Абрамовіч і Левіцкі, якія прыступілі да зарганізаваньня цывільнай улады на гэтых абшарах.

Аляксюк доўга ніяк ня мог дарвацца да ўлады, папаў нават на нейкі час у турму ў зьвязку з тым, што ня мог „адлічыцца“ ў колькі стах тысячах марак, атрыманых „на працу“ ад польскага ўраду, але наастатку, вырабіўшыся з турмы, дачакаўся свае чаргі... быць „міністрам“.

Асьцярожна, пан Аляксюк! Не пападзі зноў у турму!

## Падзел.

Дыплёматыя ўсяго сьвету, сабраўшысь на Вэрсальскую Канфэрэнцыю дзеля падведзеньня ітогаў усясьветнай вайны, спаткалася з такімі перашкодамі, каторыя, здавалося, не дадуць магчымасьці законцыць гэту вайну. Вайна парадзіла надта вялікія апэтыты нават у такіх дзяржаў, якія толькі выпадкова выплылі на міравую арэну пасьля барацьбы тытанаў. Алчнасьць і імпэрыялізм многіх дасягнулі максімума, дзякуючы чаму дыплёматы, на чале з міратворцам Вільсонам, прышлося выставіць лёзунг „самаакрэсьленьня“ народаў, апякуншай якога была пастаўлена Ліга Нацыяў.

Але дзіўная справа! Многія з „заключыўшых“ Вэрсальскі дагавор зразумелі самаакрэсьленьне толькі ў сваю карысьць, гэта значыць: можна захапіць і падняволіць усё, што „дрэнна ляжыць“, што можа панадабіцца, як „матарьял“ пры будаўніцтве ўласнага гаспадарства.

Вынікам такога тлумачэньня з'явілося тое, што Польшча, напрыклад, асабліва далёка зайшла ў сваіх прэтэнзіях на лакомыя кавалкі, апыніўшыяся з ёю па суседзтву.

Захістаўшыйся ўсходні гігант ня мог прымаць актыўнага учасьцьця ў развязаньні новыхъ міравых пытаньняў, выявіўшыхся пасьля вайны. І ваінсьцьвенная Польшча, вазмніўшая замяніць сабою быўшае агромністае расейскае зьвяно ў ланцугу палітычнай роўнавагі, стараецца адразу, бяз устыду, разьвіць свой імпэрыялізм, захапіць усе стратэгычныя і эканамічныя абшары, асабліва на ўсходзе, і далучыць іх да не надта вялікай этнаграфічнай сваей тэрыторыі.

Тут выплылі на сцэну і гістарычныя правы, прымешаліся і рэлігія і ня пэўнага сорту культура і г. д.

Ад нязьмернага апэтыту Польшчы зьбіраліся і зьбіраюцца пацярпець некаторыя вобласьці Латвіі, стогнуць па апошні дзень многія месца Літвы, узяты пад працэс „пераварываньня“ палова Беларусі і Украіны, вядучыя моцную барацьбу за тое „самаакрэсьленьне“, каторае, як краеугольны камень, было палажана ў аснову Вэрсальскіх гутарак (14 пунктаў Вільсона).

Ня буду прыводзіць усіх „матываў“, каторымі ўзмацнялі сваі вымаганьні на тыя ці іншыя чужыя тэрыторыі падпісаўшыя Рыжэскі прэлімінарны мір, прымушан толькі канстатаціраваць, што жывое цела беларускага і украінскага народаў раскрымсана стаўкнуўшыміся імпэрыялістамі.

Здаецца дзіўным і незразумелым, як Польшча, заўсёды дабіваўшаяся ўласнага самаакрэсьленьня, склонна ўцікаць іншыя народы, маючыя на самаакрэсьленьне столькі-ж правоў, як і Польшча.

Пара адумацца, паны—палякі!

**С. К--а.**

---




**Выдавецтва і рэдакцыя:** Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коўна, вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕС, КОЎНА.